# ЦІ ВЫРАТУЕ РЫНАК?

**Вось ужо некалькі гадоў запар мы перажываем па два-тры «самых адказных, цяжкіх і пераломных момантаў». Усе гэтыя гады нас заклікаюць да неаслабнага напружання сіл, каб сутаргава (цягнучы ў розныя бакі) паскараць ці выратоўваць радыкальныя перамены. Бо, «калі перабудова не пойдзе, мы акажамся адкінутымі на дзесяткі гадоў назад».**

## Пункт погляду

«Эканоміка рэспублікі, — чытаю найноўшую праграму ўрада РСФСР, — усё бліжэй падыходзіць да той мяжы, за якой трэба будзе гаварыць ужо не пра эканамічны крызіс, а пра катастрофу... Ступень некіруемасці эканомікай дасягнула катастрафічных размераў». Да чаго хіляць? «Вывад адзін: паступовы пераход ад планавай да рынычнай эканомікі немагчымы... Трэба хутка наладзіць новую — рынычную — мадэль кіравання»... («Российская газета», 25 красавіка г. г.).

Навошта малююцца страшныя карціны таго, што нас быццам бы чакае ў хуткім часе, калі не ажыццявіць «самыя рашучыя», «самыя радыкальныя», «самыя шокавыя», словам, самыя-самыя меры? Для таго, каб запужаць і ашаламіць чалавека да такой ступені, калі ён страчвае здольнасць што-небудзь разумець і гатоў праглынуць ідэалагічныя выкрутасы новай кан'юнктуры, якая шчодра сыпле «адкрыццямі» тыпу таго, што нам патрэбны сапраўдныя, самаўладныя гаспадары (і гаспадарчы бізун), што дзяржпрадпрыемства і калгас — гэта заўсёды дрэнна, а перакупшчык-кааператар і хлопчык-дзяўчынка-кветачнікі — цудоўна, што буйныя прадпрыемствы — гэта монстры-манапалісты — іх тэрмінова трэба распрадаць па частках, што не ісці, а бегчы трэба да рынку... Дзеля справядлівасці павінен сказаць, што з рынкам звязваюцца ўжо не толькі сытасць, багацце і працвітанне, але і свабодныя цэны, маёмасныя кантрасты, беднасць, беспрацоўе, неабходнасць сацыяльнай абароны насельніцтва. Але навошта ж ствараць такое агрэсіўнае, чужое для нашых людзей эканамічнае асяроддзе, каб потым ад яго абараняць?

«Колькі можна штурхаць адзін і той жа махровы кансерватызм»,— скажа крута настроены дэмакрат. «Сапраўды, — падтрымае яго прыстойны грамадзянін і «прагрэсіўна мыслячы» камуніст,—як жа без перамен. У рэшце рэшт, ёсць прынятыя ўжо дзяржавай законы, праграмы пераходу да рынку, ёсць адпаведнае рашэнне нядаўняга Пленума ЦК Кампартыі...» З фармальнага пункту гледжання ўсё гэта так. Але хіба прагрэсіруючае скочванне, а ў апошні час прамы распад эканомікі не пакідаюць ніякіх сумненняў у правільнасці той лініі, якая была распачата некалькі гадоў назад і працягваецца сёння? Ці ж можа служыць пераканаўчай, вычарпальнай аргументацыяй правільнасці гэтай лініі голае сцвярджэнне аб тым, што ёй «няма альтэрнатывы»? Ці ж у працэсе яе выпрацоўкі, прыняцця і правядзення не праявіліся навязванне і націск, часам вельмі жорсткі, ідэйнай і палітычнай кан'юнктуры? Ці ж згуртавала і аб'яднала ўсіх нас гэта лінія? А ці могуць суровыя жыццёвыя выпрабаванні людзей, палітычныя страсці, страх перад заўтрашнім днём, за будучыню сваіх дзяцей служыць выяўленнем падтрымкі народам такой лініі і нармальнай цаной, якую ён павінен за яе плаціць?

Сёння патрэбны не агульны падыход да гістарычнага мінулага нашай краіны, не спісванне на яго ўсіх хвароб сённяшняга перыяду, а прадметны, дзелавы аналіз таго, што ў гаспадарчай практыцы безумоўна зацвердзілася як неабходнае, важнае, якое трэба прадоўжыць, умацаваць, а што мае патрэбу ў істотным абнаўленні, нарэшце, што яўна ўстарэла ці нежыццяздольнае наогул і павінна быць аператыўна ліквідавана.

Галоўная хвароба існаваўшага ў краіне дзесяцігоддзямі гаспадарчага механізма выспела і праявілася ў яго аснове — цэнтралізаваным адміністрацыйным планаванні. Выканаўшы надзвычай важную ролю ў перыяд фарміравання сацыялістычнай эканомікі, на самых складаных і адказных гістарычных этапах, яно ператварылася ў тормаз якаснага росту.

На перыядзе пасля 1985 года трэба спыніцца асобна, паколькі менавіта ў ім паступовае «скочванне» эканомікі, што назіралася раней, перайшло ў прамы яе распад. Гэта ўказвае на прынцыповую няправільнасць шэрагу мер так званай кардынальнай перабудовы кіравання эканомікай, што і з'явіліся непасрэднай прычынай цяперашняй крызіснай сітуацыі. Кіраўніцтва краіны хоць фармальна і прызнала наяўнасць памылак у праводзімай ім гаспадарчай палітыцы, на жаль, прадметнай, прынцыповай ацэнкі ім не дало, а значыць, галоўных прычын паглыблення крызісу не ліквідавала. Якія гэтыя прычыны?

Па-першае, велізарны і неаслабны вал абясцэненых грашова-фінансавых сродкаў, крыніца якога ў іх дзяржаўнай эмісіі без якога-небудзь рэальнага забеспячэння і звыш усялякай разумнай меры. Нягледзячы на вострыя дэфіцыты дзяржаўных плацяжоў і бюджэту (хутчэй наадварот: якраз у сувязі з гэтым. — **Рэд.**), неабходныя жорсткі рэжым эканоміі фінансавых рэсурсаў, ахова бюджэтаў ад расцягвання, адмова ад бюджэтных расходаў не першачарговага значэння. Хранічная разбалансаванасць таварна-грашовага абарачэння, рэзкае падзенне пакупніцкай здольнасці рубля патрабуюць таксама правядзення грашовай рэформы.

Другая буйная крыніца паглыблення крызісу — стыхія так званых дагаворных адносін. Менавіта яны падштурхнулі прадпрыемствы да вядомага групавога эгаізму. Зацікаўленыя толькі ў атрыманні прыбытку, магчымасці павышаць цэны, фактычна мяняць асартымент і спажыўцоў, прадпрыемствы-вытворцы не прамінулі выкарыстаць гэта. Вынік: вымыванне таварнага асартыменту, прагрэсіруючы рост дэфіцытаў, цэнавы дыктат вытворцы, неабавязковасць і безадказнасць у адносінах да дагаворных паставак. Практыка дагаворных сувязей узарвала знізу адносны спакой дзяржаўных цэн, хутка вычарпала бюджэтныя магчымасці датацый і запатрабавала ўзаконення зверху шматразовага падаражання прадукцыі. У гаспадарчую сістэму закладзены заганны прынцып рынычнага манапалізму: не напружвайся — падтрымлівай дэфіцытнасць — павышай цэны — атрымлівай большы даход.

Ва ўмовах цяперашняга пераходнага перыяду трэба адмовіцца ад масавай практыкі дагаворных адносін з пераводам прадпрыемстваў на дзяржзаказ ці прынамсі адмяніць дагаворныя цэны. З пераадоленнем вострага таварнага дэфіцыту магчымы паступовы пераход прадпрыемстваў на стабільныя кантрактныя адносіны пры ўстанаўленні іх поўнай эканамічнай адказнасці па кантрактах.

У грунтоўным упарадкаванні мае патрэбу дзейнасць кааператываў, малых прадпрыемстваў і іншых недзяржаўных форм, якая ўнесла значны ўклад не толькі ў раскручванне цэн і інфляцыі, але і, як ні парадаксальна, ва ўзмацненне таварнага голаду, у падрыў дзяржаўнай вытворчасці (звальненне актыўнай рабочай сілы з дзяржпрадпрыемстваў, перакупка дэфіцытнай прадукцыі праз дзяржгандаль, прамое раскраданне дзяржаўнай маёмасці). Неабходна, па-першае, дакладнае вызначэнне сфер, у якіх такая дзейнасць дапушчальная і мэтазгодная; па-другое, устанаўленне ўсіх умоў яе ажыццяўлення; па-трэцяе, аказанне матэрыяльна-тэхнічнай і іншай дапамогі з боку дзяржавы. Гэта значыць, патрэбны распрацоўка і правядзенне палітыкі дзяржаўнага капіталізму з вызначэннем абавязацельстваў названых прадпрыемстваў і асоб, форм кантролю за іх дзейнасцю, умоў рэалізацыі прадукцыі, рэгламентацыі цэн і г. д. Значная частка кааператыўных і прыватных установаў магла б працаваць на ўмовах падраду з дзяржаўнымі органамі і прадпрыемствамі.

У заключэнне некалькі заўваг канцэптуальнага характару наконт розных праграм пераходу да рынку.

Большасць з іх зыходзіць з пастулата аб разнастайнасці форм уласнасці. Якое ж яго абгрунтаванне? Наўрад ці можна лічыць такім спасылку на сусветны вопыт без прадметнага яго аналізу з улікам канкрэтных гаспадарча-палітычных умоў. І ўжо зусім нельга прыняць усур'ёз трывіяльную сентэнцыю: маўляў, няхай будзе розная ўласнасць, толькі б усім было добра. Справа ў тым, што развіццё адносін уласнасці падпарадкавана сваім законам. Адзін з іх гаворыць, што таму ці іншаму ўзроўню вытворчасці, той ці іншай ступені яе гістарычнага развіцця адпавядаюць свае формы ўласнасці. Іншыя, у тым ліку старыя гістарычныя формы, могуць існаваць пастолькі, паколькі не вычарпалі сваіх магчымасцей у развіцці вытворчасці, па-першае, і не супярэчаць пануючым адносінам уласнасці, па-другое. Дапушчэнне прыватна-гаспадарчай дзейнасці пры агульнай уласнасці ў сілу адрознення іх асноў параджае мноства супярэчнасцей. Такое дапушчэнне магчымае, але толькі часова, на пэўны пераходны перыяд, для вырашэння якіх-небудзь пэўных гаспадарчых задач і пры ўмове грамадскага рэгулявання.

Прэтэнцыёзная ідэя роўнасці ўсіх форм уласнасці не больш, чым эканамічная бяссэнсавасць і прымітыўны палітычны трук, пры дапамозе якога спрабуюць працягнуць манапалізм прыватнай уласнасці. Сапраўды, пра якую роўнасць, напрыклад, паміж канцэрнам «Джэнерал мотарз», што варочае дзесяткамі мільярдаў долараў, і дробным фермерам, які разам з дзесяткамі тысяч да яго падобных жыве пад пастаяннай пагрозай збяднення, можа ісці размова? У чым можа быць эканамічная роўнасць паміж нашым трактарным заводам і раскіданымі па ўсім горадзе кіёскамі кааператыўнага марожанага? Ва ўстанаўленні адзінага парадку аплаты працы, размеркавання прыбытку, цэнаўтварэння? Але тады кааператывы проста лопнуць.

Наконт прыватызацыі. Яна заўсёды азначала перадачу ці продаж дзяржаўных прадпрыемстваў, іх маёмасці ў прыватныя рукі. Ідэі выкупу ці надзялення ўласнасцю калектыву прадпрыемства, яго акцыяніраванне — такі ж палітычны камуфляж ці несвядомая гульня. Сутнасць прыватызацыі ўкладваецца ў дзве-тры прапісныя ісціны: купляе той, у каго грошы, гаспадар той, хто купіў ці больш заплаціў.

Між тым, «гульня» з прыватызацыяй зайшла далёка. Калі на першым часе дапускалася толькі дробная прыватная ўласнасць пры панаванні дзяржаўнай і калгасна-кааператыўнай, дык цяпер грамадская думка, эканамічныя праграмы, на жаль, усё больш ідуць на повадзе ў прыспешнікаў прыватнага прадпрымальніцтва, якія навязваюць праграмы ўжо масавай, татальнай прыватызацыі.

Ці можа гэта забяспечыць уздым і ажыўленне вытворчасці, а значыць, насычэнне таварнага рынку? Не, паколькі прыватызацыя пародзіць драбленне вытворчасці, яго матэрыяльнай базы. У патэнцыяльных савецкіх бізнесменаў няма вопыту вядзення буйной прыватнай вытворчасці. Але самае галоўнае — манапалізм прадпрымальніцтва рынычнага тыпу не стварае стымулаў для росту вытворчасці, зніжэння затрат і цэн. Наадварот, ва ўмовах таварнага дэфіцыту прыватнік зацікаўлены ў штучным абмежаванні ўзроўню вытворчасці з мэтай падтрымання высокіх прадажных цэн. Гэта ўжо пацвердзіў наш кааператыўны рух.

Эксперымент з прымусовай масавай прыватызацыяй можа скончыцца толькі адным: выпрабаваўшы прэтэнцыёзныя абяцанні і не такія ўжо вялікія магчымасці па вытворчасці паўсаматужнага і архідарагога шырспажыву і не спрабуючы нават «запусціць» цяжкую прамысловасць, аграрны сектар, навуку і іншыя працаёмкія сферы, «новыя выратавальнікі і айцы Айчыны» проста распрададуць эканоміку, што стала іх «законнай» уласнасцю, сусветным купцам, пакладуць круглыя барышы ў кішэнь і — толькі іх і бачылі.

Праблема па сутнасці не ў тым, каб перадаваць ці дзяліць гатовую ўласнасць, а ў тым, каб ствараць новую, дадатковую. Няхай асоба, якая жадае ўкласці свае тысячы ці мільёны ў тое ці іншае прадпрыемства, сама яго і стварае. Без дапамогі дзяржавы ёй наўрад ці абысціся. Але пры гэтым першая — дзяржаўная ўласнасць — будзе захавана, а другая — прыватная — створана дадаткова да яе. А далей пачынаецца цэласная сістэма эканамічных адносін паміж прыватнікам і дзяржавай, якая дазваляе ўзгадняць інтарэсы розных бакоў.

Нарэшце, пра саму ідэю рынку. Каб не было непаразуменняў, удакладнім, што традыцыйна ўключаецца ў гэта паняцце. Першае — свабода прадпрымальніцтва. Другое — канкурэнцыя паміж таваравытворцамі. Трэцяе — свабода цэнаўтварэння на аснове попыту і прапанавання. Чацвёртае — такія спадарожнікі рынку, як стыхія, збядненне, беспрацоўе, крызісы.

Галоўны аргумент за рынак — усё тая ж спасылка на вопыт развітых краін, цалкам быццам бы заснаваны на рынку, які даў такія відавочныя поспехі. Наколькі справядлівыя падобныя сцвярджэнні?

Ні для каго не сакрэт, што аснову эканомікі гэтых краін складаюць манапалістычныя канцэрны. Як жа будуюць яны сваю гаспадарчую дзейнасць, адносіны паміж сабой, з дзяржавай? Няўжо выпрацоўваюць прадукцыю на свой страх і рызыку? Няўжо бясконца канфліктуюць адзін з адным з прычыны збыту прадукцыі? Няўжо і іх абцяжарвае пагроза збяднення? Хто не чуў сёння пра ўнутрыфірменнае планаванне, манапалістычныя, картэльныя пагадненні па раздзелу рынку і сфер эканамічнага ўплыву, пра маркетынг, кантрактныя адносіны паміж фірмамі, дзяржаўныя заказы, субсідыі, датацыі, амартызацыйную, цэнавую палітыку і многае іншае, што не ўкладваецца ў паняцце рынку? Што ў такім разе ад яго застаецца? Не так ужо і многа: прыватная аснова і элементы канкурэнцыі. Але не яны, а нярынычныя, прамыя, дзяржаўна-манапалістычныя адносіны дазволілі капіталізму рэалізаваць цяперашнія свае поспехі.

Урокі вопыту так званага цывілізаванага заходняга рынку не ў прыватызацыі і драбленні вытворчасці (гэтым вызначалася толькі М. Тэтчэр, ды і тая за 8 гадоў свайго праўлення прыватызавала ўсяго крыху больш як 20 прадпрыемстваў). Такімі ўрокамі з'яўляюцца развіццё гібкай сістэмы дзяржаўнага кіравання вытворчасцю, эканамічнага планавання і эфектыўных форм прамых сувязей паміж прадпрыемствамі, падрадная сістэма выкарыстання неманапалістычнага сектара. Менавіта на гэтых напрамках і трэба шукаць шляхі выхаду нашай эканомікі з крызісу.

**Я. КАСПЯРОВІЧ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

# «УСПОМНІМ УСІХ ПАЙМЕННА...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

яе пабудовы, методыка адбору матэрыялу, створаны аўтарскі калектыў. Больш складаная сітуацыя з раённымі і гарадскімі кнігамі, таму што для камісій, якія займаюцца работай над імі, іх аўтарскіх калектываў галоўнае на сучасным этапе заключаецца ў складанні спісаў загінуўшых, збіранні дакументальных матэрыялаў у розных архіўных установах, запісванне ўспамінаў жывых удзельнікаў падзей. Гэта даволі карпатлівая і складаная праца, таму што матэрыялаў у гатовым выглядзе нідзе няма. Возьмем, напрыклад, спісы загінуўшых: яны знаходзяцца ў розных архівах; потым, часта мяняліся адміністрацыйна-тэрытарыяльныя граніцы раёнаў, многія вёскі за пасляваенны час перанесены ў іншыя месцы, зліліся з іншымі населенымі пунктамі, зусім зніклі з геаграфічнай карты рэспублікі. Значная частка вясковага насельніцтва перамясцілася ў горад. Таму і прыходзіцца весці падворны (у гарадах — пакватэрны) абход, складаць і звяраць спісы, заносіць новыя прозвішчы.

Мяркую, што зусім правільна робяць тыя гарадскія і раённыя камісіі, якія друкуюць спісы загінуўшых на старонках мясцовых газет. Робіцца, я сказаў бы, своеасаблівая народная «экспертыза». Людзі яшчэ добра памятаюць, хто каму служыў і хто дзе загінуў. Пасля такога ўсенароднага ўдакладнення, напрыклад, у Талачынскім раёне былі дадаткова ўстаноўлены прозвішчы больш сямі тысяч загінуўшых, у Рагачоўскім — каля 400 прозвішчаў і г. д. Такая работа ў многіх гарадах і раёнах вядзецца даволі паспяхова. І гэта радуе. Заклапочанасць выклікае наступная акалічнасць. Падрыхтоўчыя работы, што вядуцца ў гарадах і раёнах, могуць завяршыцца амаль адначасова. І тады ў выдавецтвах узнікне доўгая чарга рукапісаў. І нават калі з іх рэдагаваннем рэдакцыйныя калектывы справяцца паспяхова, выданне кніг затрымае паліграфія. Ні паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа, ні выдавецтва ЦК КПБ не змогуць перапрацаваць такую колькасць рукапісаў.

**— І якое бачыцца выйсце?**

— Па-першае, у актывізацыі працы аўтарскіх калектываў. Было б добра, каб падрыхтоўчыя работы камісіі і калектывы ў гарадах і раёнах завяршылі ў асноўным у 1991—1992 гадах. Больш дзейсны кантроль за праходжаннем рукапісаў раённых і гарадскіх кніг у выдавецтвах павінны ажыццяўляць абласныя і рэспубліканская камісіі. Па-другое, актыўную пазіцыю ў рабоце са сваімі падшэфнымі павінны займаць самі выдавецтвы. Дарэчы, ў кожным з іх ведаюць тыя рэгіёны, якім яны павінны аказаць дапамогу — метадычную, творчую, рэдактарскую. Толькі сумесная праца можа забяспечыць поспех.

**— А наколькі паспяхова ажыццяўляецца такое супрацоўніцтва? Мне, напрыклад, вядома, што не ўсё тут гладка. Ёсць скаргі раённых камісій на няўважлівасць, марудлівасць работнікаў выдавецтваў...**

— Магчыма, і ёсць такія выпадкі. На жаль, далёка не ўсе супрацоўнікі выдавецтваў пранікліся грамадзянскай значнасцю гэтай справы, знаходзяцца розныя прычыны, каб перакласці работу на плечы сваіх калег, а то і зусім адмовіцца ад супрацоўніцтва з камісіямі. Часцей за ўсё матывуюць такія адносіны да гэтай пачэснай справы ўмовамі рынку, неабходнасцю павышэння заработкаў і г. д. Так, на выданні кніг «Памяць» асаблівых матэрыяльных набыткаў не атрымаеш. Але ж ці можна мераць памяць людскую толькі грашамі?! Тым больш, што такія матывіроўкі часцей за ўсё маюць іншыя мэты. На самай справе гаворка ідзе аб кан'юнктуры, прамым «тарпедаванні» выпуску кніг «Памяць», калі хочаце, ігнараванні пастановы беларускага ўрада па гэтаму пытанню. Ну, скажыце, наколькі важкай у сэнсе заработку членаў выдавецкага калектыву больш чым у 100 чалавек можа быць эканомія ад скарачэння ў выдавецтве адной штатнай адзінкі, нават калі яе службовы аклад складае крыху больш за пяцьсот рублёў? Каля пяці рублёў у месяц. А менавіта такая сума стала рухаючай сілай у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», дзе знайшліся «мудрыя галовы» (дарэчы, і былыя члены партыі), якія ў катэгарычнай форме настойваюць на скарачэнні пасады намесніка галоўнага рэдактара, які, дарэчы, быў ініцыятарам стварэння серыі «Памяць» і прамым абавязкам якога сёння з'яўляецца работа па каардынацыі выпуску кніг «Памяць» у нашай рэспубліцы. Яны ж дабіліся і скарачэння штатнай адзінкі рэдактара, які займаўся падрыхтоўкай рэспубліканскай кнігі «Памяць». Цяпер гэта работа, як кажуць, на нулі (?!). Дарэчы, названай пастановай Савета Міністраў БССР менавіта БелСЭ даручана «ўкамплектаваць рэдакцыю гісторыка-дакументальных хронік дадатковай колькасцю высокакваліфікаваных рэдактараў з такім разлікам, каб у 1995 годзе давесці штогадовы выпуск кніг «Памяць» да 10 назваў». Наўрад ці патрэбны тут нейкія каментарыі. Можна толькі сказаць, што якраз БелСЭ была ініцыятарам выпуску «Памяці» ды і цяпер з'яўляецца галоўным метадычным цэнтрам па напісанню такіх гістарычных кніг-хронік. І вядзе гэту работу на добрым узроўні. Сведчаннем таму толькі што выдадзеная кніга «Памяць» Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Ёсць яшчэ адна тэма — вызначэнне найбольш аптымальнага тыражу кніг «Памяць». Насцярожвае тое, што тыраж часцей за ўсё вызначаецца «на вока». Напрыклад, Бешанковіцкі раён заказаў усяго 5 тысяч экземпляраў кнігі. Гэтак жа і Лёзненскі. А з вопыту тых раёнаў якія ўжо выдалі кнігі-хронікі, можна зрабіць вывад, што і для Бешанковіцкага, і для Лёзненскага раёнаў тыражы заніжаныя. Жыццё падказвае: яны павінны быць не менш, а то і больш як 10 тысяч экземпляраў. Чаму? Хоць бы таму, што, па-першае, гэтыя кнігі не старэюць; па-другое, іх купляюць не толькі жыхары рэгіёна, але і тыя, хто бывае на магілах родных і блізкіх, хто навек зрадніўся з беларускім краем; па-трэцяе, у бліжэйшы час для перавыдання «Памяці» наўрад ці знойдзецца магчымасць. Лепш за ўсё тыраж кнігі вызначаць сумесна кіраўніцтву раёна ці горада з выдавецтвам. Такая кніга не прападзе і не ўстарэе ніколі.

**— Аркадзь Уладзіміравіч, ва Указе Прэзідэнта СССР ад 8 лютага адзначаны шэраг недахопаў, якія маюць месца ў рабоце па ўвекавечанню памяці загінуўшых воінаў, партызан і падпольшчыкаў. Ці мае гэта дачыненне да нашай рэспублікі?**

— На жаль, мае. У нас недастаткова эфектыўна вядзецца пошукавая работа па ўстанаўленню прозвішчаў загінуўшых. На тэрыторыі рэспублікі знаходзяцца дзесяткі безыменных, нават закінутых пахаванняў. Ёсць выпадкі, калі ўстаноўленыя прозвішчы не заносяцца на помнікі, стэлы, іншыя мемарыяльныя знакі. Марудна аднаўляюцца прозвішчы мірных жыхароў, знішчаных фашыстамі (асабліва яўрэйскага насельніцтва, якое вынішчалася ў масавым парадку). Такія прабелы ёсць у Мінску, Пінску, Віцебскім раёне, іншых рэгіёнах рэспублікі. Шмат неўстаноўленых прозвішчаў воінаў, якія загінулі за межамі нашай краіны.

Найбольш складанай і пакуль яшчэ недастаткова вырашанай застаецца праблема ўстанаўлення франтавога лёсу і ўвекавечання памяці без вестак прапаўшых. Вывучэнне яе паказвае, што без вестак прапаўшымі лічацца воіны, якія застаюцца пакуль што невядомымі, пахаваны ў брацкіх і адзіночных магілах як на тэрыторыі нашай краіны, так і за яе межамі, загінуўшыя ў лагерах ваеннапалонных ці ад непасільнай працы на гітлераўскіх прадпрыемствах. Адзначыў бы і такую акалічнасць. Не ўсюды работа па ўвекавечанню памяці загінуўшых, падрыхтоўцы кніг «Памяць» цесна ўвязваецца з ажыўленнем гераіка-патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання нашых людзей, асабліва моладзі, падлеткаў. Новыя імпульсы павінны быць нададзены краязнаўчай рабоце. Ствараецца ўражанне, што ў апошні час парушаны сувязі, аслаблена каардынацыя дзеянняў, пошукавыя атрады прадастаўлены самі сабе. Ад удзелу ў краязнаўчых, пошукавых аперацыях ухіліліся камсамольскія камітэты. Ды і многія бюро, сакратары гаркомаў, райкомаў партыі павінны ўдзяляць гэтай справе больш увагі. Хацелася б, каб да стварэння кніг «Памяць» больш уважлівымі былі тэлебачанне, радыё, рэдакцыі газет і часопісаў. Трэба абагульняць вопыт. А ён ужо ёсць.

**— Нарэшце, яшчэ адно пытанне. З якімі кнігамі «Памяць» чытачы пазнаёмяцца ў бліжэйшы час?**

— У выдавецтве БелСЭ толькі што выйшла ў свет кніга народнай памяці Быхаўскага раёна (яшчэ раз адзначу, што гэта пакуль што адна з лепшых кніг гэтай серыі). Рэдагуецца кніга па Хойніцкаму раёну, у рабоце кнігі «Памяць» Рагачоўскага, Бешанковіцкага, Лёзненскага і іншых раёнаў. Павінен адзначыць, што многія раённыя і гарадскія камісіі ў апошні час актывізавалі сваю работу, а гэта значыць, што будуць новыя кнігі, якіх чакаюць не толькі жыхары нашай рэспублікі, але і родныя і блізкія тых, хто пахаваны на беларускай зямлі.

**— Поспехаў вам у рабоце.**

— Дзякую. І ў сваю чаргу запрашаю журналістаў да больш актыўнага ўдзелу ў напісанні «энцыклапедыі народнай памяці».

# Ваша пісьмо атрымалі

**Жыхар з г. Нароўля В. Рэут прасіў рэдакцыю «Звязды» дапамагчы яму атрымаць пазыку на будаўніцтва дома. Дарэчы, гэта пытанне хвалюе многіх перасяленцаў з чарнобыльскай зоны.**

**Намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкома В. СЫЧ** паведаміў рэдакцыі, што пісьмо В. Рэута разглежана. У адпаведнасці з пунктам 16 артыкула 23 Закона БССР «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» тыя, хто жыве ў зонах першапачатковага і наступнага адсялення, маюць права на атрыманне пазыкі ў размеры 10 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і для самастойнага (пры жаданні) набыцця або будаўніцтва індывідуальнага жылога дома (кватэры). Гэта пазыка выдаецца за кошт сродкаў, прызначаных на капітальнае будаўніцтва па месцы набыцця або будаўніцтва жылля. Пагашэнне ж яе робіцца банкам штоквартальна па меры асваення сродкаў на будаўніцтва або ажыццяўлення куплі-продажу, але не больш за фактычныя затраты.

**«Дзе мае газеты і часопісы, чаму іх прыносяць са спазненнем?» — скардзіўся падпісчык Р. Паплёўка, жыхар в. Шклянцы Докшыцкага раёна.**

**Намеснік старшыні Докшыцкага райвыканкома В. МАКЯЁНАК** паведаміў рэдакцыі, што пытанне аб нясвоечасовай дастаўцы карэспандэнцыі разглежана раённым вузлом сувязі.

Выяўлена, што выкладзеныя ў пісьме факты сапраўды мелі месца. Начальнік аддзялення сувязі ў в. Бярозкі Я. Батура і паштальён А. Кукша па выніках работы за I квартал будуць пазбаўлены прэміяльнай аплаты.

Р. Паплёўку прынесена прабачэнне.

**Жыхары в. Зуб-Буда Акцябрскага раёна даўно дамагаюцца тэлефанізацыі іх вёскі, але безвынікова.**

**Намеснік старшыні выканкома Акцябрскага раённага Савета народных дэпутатаў А. МАХАНЬКО** даслаў у «Звязду» наступны адказ.

Пісьмо вяскоўцаў разглежана ў раённым вузле сувязі. Сапраўды, у в. Зуб-Буда, дзе жывуць 23 сям'і (37 чалавек), устаноўлены толькі 2 кватэрныя тэлефоны: у доме інваліда вайны Я. Хадзько і сям'і загінуўшага Я. Вежнаўца. А вось для ўстаноўкі дадатковага неабходна падвеска тэлефоннага ланцуга працягласцю 8 км ад АТС в. Маісееўка да вёскі Зуб-Буда. Цяпер у раёне ідзе рэканструкцыя тэлефоннай сеткі, яшчэ адзін тэлефон намечана ўстанавіць у 1992 годзе.

●

**У наваколлях цэнтральнай сядзібы калгаса імя Войкава Мінскага раёна часта можна бачыць статак беласнежных коз. Гаспадарцы з мільённымі даходамі дае прыбыткі і гэта падсобная галіна. Кожная каза высокапрадуктыўнай зааненскай пароды дае ў суткі да 5 кілаграмаў малака з лячэбнымі ўласцівасцямі. Яго прадаюць насельніцтву, забяспечваюць ім свой дзіцячы садок.**

**У будучым ферму плануюць значна расшырыць, таму прыплод маладняку клапатліва даглядаюць і не спяшаюцца прадаваць, хоць просьбаў у праўленне паступае нямала.**

**НА ЗДЫМКУ: Любоў Сяргееўна ЖАБУРОНАК са сваім турботным статкам.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА. (БЕЛТА).**

●

# МАТАРЫЗАВАНЫЯ... ЖАБРАКІ

### ЯК ПЕНСІЯНЕРЫ-МІНЧАНЕ «БУДАВАЛІ» КААПЕРАТЫЎНЫ ГАРАЖ

ЧАС ад часу чалавек набывае рэчы. Самыя розныя. Нават нягледзячы на нашы сённяшнія цяжкасці. Хто купіў мэблю, хто — будаўнічыя матэрыялы, а некаму і наогул буйна пашанцавала — прыдбаў аўтамабіль.

А гэты «не прадмет раскошы» прыносіць не толькі зручнасці, але і турботы. Яго трэба ахоўваць ад зладзеяў, ад карозіі. У такіх умовах уладальнікі машын дзейнічаюць аднолькава: пішуць заявы ў мясцовыя органы ўлады на прадмет будаўніцтва гаражоў — індывідуальнага ці кааператыўнага. У рэспубліцы якраз і адпаведная пастанова выйшла.

І вось на самым пачатку перабудовы (здарылася гэта летам 1985 года) група пенсіянераў і жыхароў мікрараёна «Усход» Мінска стварыла свой гаражны кааператыў. 770 чалавек, набыўшы ў розныя гады машыны, аб'ядналіся, каб сумесна фінансаваць будаўніцтва. Правялі сход. Вызначылі прыкладны кошт. Вядома ж, выбралі праўленне. Узначаліў гэту турботную арганізацыю ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Палтаўцаў. Зрэшты, людзей, якія прайшлі праз выпрабаванні вайной (многія з іх засталіся інвалідамі), набралася амаль палавіна—330. Большасць — тутэйшыя, жыхары гэтага мікрараёна.

Першамайскі райвыканкам зацвердзіў гэты кааператыў. І мара аўтааматараў стала набываць рэальныя абрысы. Неўзабаве людзі зрабілі першыя грашовыя ўзносы. Створаны калектыў набыў, акрамя юрыдычнага, і эканамічны базіс.

Пляцоўку для будаўніцтва знайшлі мясцовыя ўлады. А Мінгарвыканкам вынес рашэнне аб адвядзенні ўчастка ў 1,1 гектара па вуліцы Каліноўскага для будучай будоўлі. Усё тут зручна: побач гарадскі транспарт, камунікацыі, кабелі электрасетак. Радуйцеся, уладальнікі аўтамабіляў!

Але радавацца не было чаму, бо пачаліся доўгія і пакутлівыя паходы па розных інстанцыях, дзе, здаралася, праўленцаў сустракалі не зусім ветліва. Тармажэнне адбылося яшчэ на першым этапе, калі праекціроўшчыкі пачалі думаць-гадаць наконт праекта. Ажно два гады (!) абівалі пенсіянеры парогі інстытута «Белкамунпраект». Прасілі, пісалі пісьмы, выходзілі на кіраўніцтва — усё дарэмна. «Асілілі» той праект толькі ў 1988 годзе.

Але аказалася, што гэта была не адзіная перашкода. Трэба прайсці архітэктурна-планіровачную камісію, мець заключэнне сталічнай санітарнай службы, штаба грамадзянскай абароны, выканаць тэхумовы ДАІ, атрымаць «добра» на падключэнне да інжынерных сетак і шмат што яшчэ. Нарэшце далі згоду Галоўэкспертыза пры Дзяржбудзе БССР і Горадабудаўнічы савет пры галоўным архітэктары. Пакуль усё гэта адбылося, надышло лета 1989 года. Але пенсіянеры акрыялі: такі жаданы гараж быў ужо ледзь ці не наяве. Цяпер дагавор з будаўнікамі — і, як кажуць, уязджаем у вароты.

Не ўехалі... У наш час галоснасці і плюралізму думак знайшлася яшчэ адна сіла, якая ўсё перакрэсліла. Узбунтаваліся жыхары бліжэйшых дамоў. Яны сталі жывой сцяной перад бульдозерам, зламаўшы перад гэтым плот, якім была агароджана новая забудова. «Не пусцім!» — і ўсё тут. Будаўнікі трэста № 1 былі вымушаны спыніць работы.

Амаль увесь мінулы год ішла пісьмовая «карусель». Нарэшце Дзяржкамітэт БССР па ахове прыроды паведамляе беларускаму прыродаахоўнаму пракурору В. Дзямідовічу: «Па даных «Белгідрамета», у раёне забудовы назіраецца перавышэнне ГДК па сумацыі вокіслаў серы, вугляроду, азоту і фенолу ў 2,5, па аміяку і фармальдэгіду — у 1,4 раза. Максімальныя ўзроўні забруджанасці пераўзыходзяць ГДК па двухвокісу азоту ў 2,8, па фармальдэгіду ў 8,3, аміяку — у 2,2 раза». Указвалася яшчэ, што тут будзе санітарна-ахоўная зона. І рэзюме: лічыць будаўніцтва шматпавярховага кааператыўнага гаража на гэтай пляцоўцы не пажаданым.

Усё паехала ў адваротным напрамку. Прыродаахоўны пракурор з такім заключэннем пагадзіўся, прадубліраваў яго. Горадабудаўнічы савет змяніў сваё заключэнне са станоўчага на адмоўнае.

Так за некалькі тыдняў былі зведзены на нішто пяцігадовыя нялёгкія турботы пенсіянераў.

«Такая непаслядоўнасць адказных асоб, — адзначаюць у сваім пісьме ў рэдакцыю аўтааматары, — абышлася кааператыву ў 80 тысяч рублёў. Хто іх верне?»

Тым часам органы Савецкай улады быццам і разумеюць, што людзі засталіся пакрыўджанымі, і праўленне не пабудаванага яшчэ гаража атрымлівае паперу такога зместу: «Па заказу выканкома Першамайскага раённага савета народных дэпутатаў інстытутам «Мінскпраект» выконваецца перадпраектная прапрацоўка размяшчэння шэрагу аб'ектаў на пляцоўцы на паўночны ўсход ад Маскоўскіх могілак. Гэтай работай прадугледжваецца і размяшчэнне гаража, які пераносіцца з камунальнай зоны вуліцы Каліноўскага».

На тым кааператары, відаць, згодны былі б і супакоіцца. А што ім яшчэ застаецца? Але зноў няўдача: праекціроўшчыкі не згаджаюцца прывязаць гатовы праект (заўважым: за які заплачана!) да новай мясцовасці. Маўляў, павярховасць высокая, «не ўпісваецца ў агульны план. Вось каб панізіць гараж з сямі да чатырох паверхаў...»

Як бы там ні было, а справа ідзе да таго, што казка пра кааператыўны гараж пачнецца спачатку: цяжкія і доўгія работы па складанню праекта, блуканні па ўсіх этапах увязак, узгадненняў, удакладненняў.

— А вы дадайце сюды яшчэ і падаражанне будматэрыялаў, — заўважыў удзельнік Вялікай Айчыннай вайны А. Дашкевіч. — Гэта, безумоўна, вельмі балюча адаб'ецца на нашым бюджэце. Гараж мяркуюць «прывязаць» да зусім новага месца. Камунікацый там ніякіх, усё прыйдзецца падводзіць.

А гэта затраты, якія вымяраюцца, магчыма, сотнямі тысяч. Ці здужае ўсё гэта кашалёк пенсіянера? І чаму ён, нібы жабрак, павінен бегаць ад адной установы да другой? Вось і гэтымі днямі пачаліся хаджэнні па банкаўскіх службах, бо 40 працэнтаў урадавай кампенсацыі спрабуюць праігнараваць.

І яшчэ. Дзе цяпер у Мінску можна знайсці такі куток, у якім у паветры не было б перавышэння розных вокіслаў ці іншых шкодных рэчываў? Так што мы маем прэцэдэнт, калі, выкарыстоўваючы «народны гнеў», можна лёгка паставіць «цагліну» на фоне чырвонага круга перад любой будоўляй.

**М. ЧАХОЎСКІ,**
**кар. «Звязды».**

